Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

№ 3. Вільня, Пятніца, 16-га студзеня 1925 г. Год I.

## Цэнтральн. Белар. Шк. Рада,

жадаючы дапамагчы свайму народу ў дамаганьні сваей роднай беларускай школы, зьвяртаецца да паўнамоцнікаў, вучыцялёў і наагул грамадзянства даць Цэнтр. Бел. Школьн. Радзе наступныя весткі ў справе адчыненьня беларускай школы, або пераварэньня істнуючай польскай школы ў беларускую:

1. Калі быў зроблен прыгавар аб адчыненьні беларускай школы.
2. Кім зацьверджаны прыгавар (Калі не зацьверджаны, то чаму).
3. Калі і кім быў паданы Інспэктару прыгавар.
4. Які адказ даў, вусны ці пісьменны Інспэктар (паперу ад Інспэктара прыслаць у Раду).
5. Ці адчынена польская школа замест беларускай.
6. Ці выкладаецца беларуская мова ў польскай школе.
7. Які вучыцель працуе ў школе — тутэйшы ці з Польшчы (яго імя і прозьвішча).
8. Як вучыцель адносіцца да дзяцей і люднасьці.
9. Прыслаць у Раду паперкі ад Інспэктара аб штрафу і сьпісак аштрафаваных бацькоў.
10. Ці ёсьць прыватная беларуская школа.
11. Якія перашкоды наагул для адчыненьня беларускай школы.
12. Прыслаць у Раду копіі прыгавараў, калі яшчэ ня высланы.

Прыслаць па адрасу:

**Wilno, ul. Wileńska 12—6,**
**Centralna Białoruska Rada Szkolna.**

*Цэнтральная Беларуская*
*Школьная Рада.*

3—2

## Перад дзьвінскім працэсам.

У сувязі з скліканай у Фінляндыі чарговай канфэрэнцыяй міністраў заграпічных спраў балтыцкіх рэспублік (Польшчы, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі) польская прэса распачала праўдзівую атаку проці Латвіі. Польскія газэты наагул, а асабліва віленскае абшарніцкае „Słowo“, трэбуюць ад польскага міністра заграпічных спраў, каб ён не варочаўся ў Варшаву, не дабіўшыся ад Латвіі ўступкі Польшчы шасьцёх гмін над Дзьвіною і прызнаньня латвійскім паляком... права лічыцца грамадзянамі Польскае Рэспублікі ды працаваць на карысьць апошняе, жывучы ў Латвіі і карыстаючыся тамака правам недатыкальнасьці іх двароў....

Запраўды, Польшча не магла-бы знайсьці дзеля гэткага выступленьня лепшага мамэнту: пасьля спробы камуністычнага перавароту ў Эстоніі,—латышоў зьняў страх перад магчымасьцяй нечага падобнага і ў Латвіі, вынікам чаго было-бы далучэньне Латвіі да СССР.

Мала таго: латвійская ўнутраная палітыка як-быццам аб тым толькі і думае, дзеля таго толькі і працуе, каб аблягчыць Польшчы зьдзейсьненьне лятуценьня латвійскіх абшарнікаў-палякоў, датычна „ратаваньня“ іх маёнткаў ад падзелу між сялянамі.

Мы маем тутака на думцы рэзкі паварот латвійскае палітыкі ў адносінах да тэй „нацыянальнай меншасьці“, якая на тэрыторыі аблюбаваных Польшчай шасьцёх над-дзьвінскіх валасьцей зьяўляецца як-раз *большасьцяй*: у адносінах да беларусаў.

У канцы гэтага месяца ў Дзьвінску мае адбыцца працэс сямёх беларусаў, найвыдатнейшых у межах Латвіі беларускіх культурных працаўнікоў. У палітычнай акцыі латвійскіх палякоў асаблівае месца займала правацыраваньне варожых выступленьняў латвійскага ўраду проці беларусаў, каб гэтым аслабіць сілы беларускія ў гэных шасьцёх гмінах і рукамі самае-ж латвійскае ўлады абярнуць тамтэйшых беларусаў—з шчырых прыяцеляў латвійскае дэмакратыі—у яе ворагаў, ці прынамся ў людзей, якіх-бы справа прыналежнасьці да Латвіі, ці да Польшчы, зусім ня рупіла. У выніку інтрыгі, праведзенай супольнымі сіламі польскага і расейскага парляманцкага прадстаўніцтва ў Латвіі, была сфабрыкавана „палітычная справа“, да якой сьпярша прыцягнулі ўсіх, хто ў Латвіі так ці сяк быў зьвязаны з беларускай культурнай работай. Але аказалася, што да гэтае работы прымазаліся і некаторыя безработныя маскалі. Дык вось, пасьля доўгага судовага сьледзтва, *усе гэныя „тоже белороссы“ аказаліся звольненымі ад судовае адказнасьці*, і *судзіцімуць, выключна, тых, хто шчыра і сумленна працаваў ня дзеля хлеба, а дзеля беларускае справы, дзеля карысьці беларускага насяленьня Латвіі.* Маем тут ажно двух дырэктароў і тварцоў беларускіх дзяржаўных гімназіяў—у Дзьвінску і ў Люцыне, маем усе найлепшыя пэдагагічныя беларускія сілы.

Звальненьне ад суда „тоже белороссов“ лішне ярка паказуе на процібеларускі характар гэнага палітычнага працэсу. І зьвядзеньне да сямёх лічбы падсудных як-быццам наперад гавора аб тым, што яны будуць засуджаны.

А такі прысуд адгукнецца ў сэрцах латвійскіх беларусаў дужа сумным вотклікам: такі прысуд ня толькі зьліквідуе беларускую культурную працу ў Латвіі, але і разаб'е ў нашых латвійскіх братоў веру ў магчымасьць здабыць сабе волю і культуру ў межах Латвійскае Рэспублікі... А бяз гэтае веры, хто-ж захоча хоць-бы пальцам крануць, каб надалей астацца пад Латвіяй?

Беларуска-латвійскія адносіны бясспрэчна перажываюць цяжкі крызіс. І тая ці іншая разьвязка яго мо' адбудзецца якраз на гэным палітычным працэсе, на якім беларускіх культурных работнікаў судзіцімуць за „вялікае палітычнае праступленьне“: *за іх гарачы беларускі патрыятызм.*

Ня дзіва, што і польская прэса выбрала гэты мамэнт, каб распачаць сваю атаку на шэсьць над-дзьвінскіх валасьцей, у якіх пераважае беларускае насяленьне....

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!***

## Ад канфлікту з Гданскам — да канфлікту з Высокім Камісарам Лігі Народаў.

У „Dz. Wil.“ пішуць з Варшавы:

Палітычныя кругі атрымалі зусім непадобную да веры вестку, быццам да Камісара Польшчы ў Гданску зьявіўся сам Высокі Камісар Лігі Народаў, Мак-Донэль, і парадзіў — для спыненьня непаразуменьняў **зьняць польскія паштовыя скрынкі ў Гданку.**

Калі-ж польскі Камісар Страсбургер катэгарычна адмовіў яму ў гэтым, тады Высокі Камісар заявіў, што ў такім разе ўпаўнаважыць Сэнат Вольнага Места Гданску зьняць гэтыя скрынкі...

Як мы й пісалі, перапросіны прадстаўніком Сэнату прадстаўніка Польшчы за **шкоды і самачынствы**, зробленыя ў часе канфлікту, зусім не азначалі, што Гданскі Сэнат згадзіўся з паглядам Польскага Ураду і зьмяніў свой,—што інцыдэнт зьліквідаваны.

Запраўды, канфлікт Польшчы з Гданскам ня толькі не зьліквідаваны, але, відаць, вырас ужо да канфлікту з самім Высокім Камісарам Лігі Народаў у Гданску.

Тая ж газэта паведамляе, што мін. Страсбургер атрымаў ад габінэту міністраў поўнае адабрэньне свайго становішча ў канфлікце і — на падставе новых паўнамоцтваў—ужо меў рашучую размову... з Мак-Донэлем (Высокім Камісарам Лігі ў Гданску). Што выплыве далей з гэтай „рашучай размовы“, сказаць не бяромся.

## Мусоліні аб сабе.

Каб добра зразумець, што робіцца ў Італіі, даволі проста прывесьці тую чыста „дмоўска-сэйдаўскую“. „шалёную“ прамову, якую сказаў на апошнім паседжаньні „парляманту“ Мусоліні, — можа ўжо і запраўды перад стваім канцом, хаця йшчэ і пануе тэрорам над Італіяй.

Падаем найбольш яркія мейсцы з гэтай прамовы.

„Паны паслы! Прамову, якую вы пачуеце зараз, мо' і нельга будзе назваць чыста парляманцкай (!)... Ды нічога! Ці мая прамова дасьць мне даверые парляманту, ці, можа, й ня дасьць, гэта для мяне—усё роўна... — Бо я ўжо столькі разоў меў ад парляманту гэтае даверые, што новага яго выражэньня мне ня трэба (!)...

„Артыкул 47 канстытуцыі дае права парляманту аддаваць пад суд каралеўскіх міністраў. — Дык вось я пытаюся, ці знойдзецца хто ў гэтым Сойме, ці па-за Соймам, хто-б захацеў скарыстаць з гэтага права? (гучныя воплескі...?). Дык прамова мая будзе вельмі ясная і перад усім зусім высьветліць палажэньне... Вы добра разумееце, мае паны, што пасьля доўгай дарогі з таварышамі нашай супольнай працы, якім належыць наша ўдзячнасьць за ўсё тое, што яны зрабілі, трэба зрабіць нейкую астаноўку, каб паглядзець, ці можна і далей ісьці разам з імі. Дык вось я сам у гэтай салі й палымаю кіданае проці мяне самога абвіненьне. Кажуць, што я парабіў у краю „чрэзвычайкі“... Але—гдзе? калі? якім спосабам?—на гэта мне ніхто не адкажа... (?).

Ніякай „чрэзвычайкі“ ў Італіі няма і ня было. Да сёньня ніхто яшчэ мне не адмаўляў гэткіх трох добрых рысаў: розуму, вялікай адвагі і пагарды да грошаў... (гучныя воплескі).

„Дык вось, калі-б нават я і стварыў якую „чрэзвычайку“, дык толькі такую, якая-б ужывала прымус і гвалт разумна і па-рыцарску шляхотна (?!), як мы ўсе і рабілі гэта ў працягу апошніх 5 гадоў... (!). Насільства можа і павінна ўжывацца,—як і ў хірургічнай апэрацыі (як над Маттэотті...), але павінна быць разумным і карысным для краю (воплескі).

„Дык зрабіце мне гэткую ласку,—ня лічыце мяне такім крэтынам (ідыётам), каб я мог якраз у дзень Божага Нараджэньня даць загад забіць пасла Маттэотті, ці каб я таксама па-ідыёцку мог арганізаваць напады меншага значэньня (?!) — як напады на дэпутатаў Міссуры і Форні.

